Я. Н. Рапановіч

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

*Я. Н. Рапановіч*

# СЛОЎНІК НАЗВАЎ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

Рэдактар
доктар філалагічных навук
П. П. Шуба

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1983

ББК 81.2 Бел-4
Р23

Рэцэнзенты:
В. А. Жучкевіч,
доктар геаграфічных навук,
С. М. Грабчыкаў, І. Я. Яшкін,
кандыдаты філалагічных навук,
Г. А. Каханоўскі,
кандыдат гістарычных навук

**Рапановіч Я. Н.**

Р 23 Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці / Рэд. П. П. Шуба.— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— 240 с.

У пер.: 1 р. 50 к.

На беларускай і рускай мовах даюцца назвы ўсіх населеных пунктаў Магілёўскай вобласці. Кожная назва прыводзіцца з націскам, паказваюцца род назоўніка, родны і месны склоны; утвораны прыметнікі; адзначаецца тып пасялення, называюцца сельсавет і раён, а таксама калгас ці саўгас, на тэрыторыі якіх гэта пасяленне знаходзіцца.

Р $\frac{4602020000-154}{M316-83}$ 122—83

ББК 81.2 Бел-4

## УВОДЗІНЫ

Магілеў, Магілёў. З перадвекаў і гаварылі і пісалі то «Магілеў», то «Магілёў». Напісанне «Магілеў» афіцыйна замацавана 3 ліпеня 1925 г. у пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Савета Народных Камісараў Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі «Аб пацвярджэнні спісу гарадоў і мястэчак БССР» *. Ім карысталіся ў пісьмовых крыніцах, друкаваных на беларускай мове, аж да 15 ліпеня 1935 г.— прыняцця пастановы ЦВК і СНК БССР «Аб зацвярджэнні спісу гарадоў, рабочых пасёлкаў і мястэчак БССР»**, дзе напісана «Магілёў». З таго часу пачала пашырацца форма «Магілёў», хоць старажылы-магілёўцы па-ранейшаму завуць свой горад Магілевам.

Народнае паданне, звязанае з паходжаннем Магілёва, па-мастацку асэнсаваў Янка Купала і на яго аснове ў 1913 г. стварыў цудоўную паэму «Магіла льва». Само паданне, вядома, прыгожае, ды ўсё-такі гэта паданне. Гістарычныя крыніцы яго не пацвярджаюць.

«Баркулабаўскі летапіс» расказвае, што Магілёў засялялі людзі з суседніх вёсак — княжычане, галоўчынцы, буйнічане, галынчане, радзівонаўцы, а таксама прышлыя, у прыватнасці смаляне, выхадцы са Смаленска. У 1526 г. вялікі замак закладзены і скапана многа гары Магілы. Ад назвы гары (так сведчыць летапіс) і атрымаў сваё імя горад ***. Т. Р. Сурта ў канцы XVII ст. пісаў: «Зусім невядома, чаму Магілёў мае такую назву. Як на маю думку, яе трэба тлумачыць так: Могі лёў — славянская назва, што азначае здаравенны, дужы, неадольны леў». І дадаваў: сваё імя горад апраўдаў — ні шматлікія войны і частыя пажары, ні мор і іншыя беды не зламалі яго ****.

Хоць звесткі пра паходжанне паселішча, яго назвы і летапісныя, аднак прыняць іх за ісціну нельга. Па-першае, пісьмовыя крыніцы ўпамінаюць Магілёў у 1267 г., а ў 1526 г. каля сутокаў Дубровенкі

---

* Сабранне законаў і загадаў рабоча-сялянскага ўрада Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.—Мн., 1925, № 31, с. 50—52. (Далей: ЗЗ БССР.)

** ЗЗ БССР.— Мн., 1935, № 26, с. 2—4.

*** Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская и Быховца. Летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного.— М., 1975, с. 174.

**** Могилевская хроника Т. Р. Сурты и Ю. Трубницкого.— У кн.: Полное собрание русских летописей. Т. 35. Летописи белорусско-литовские. М., 1980, с. 239.

і Дняпра, дзе быў стары замак, пабудавалі новы, большы, драўляны замак і частку земляных умацаванняў вакол Старога горада і гандлёвай плошчы. Значыць, паселішча к таму часу мела ўжо назву. Па-другое, калі населены пункт называюць, яго проста вылучаюць сярод іншых, надаюць канкрэтны адрас і, вядома ж, не задумваюцца над тым, апраўдае паселішча сваё імя ці не апраўдае. Па-трэцяе, айконімы на -аў/-оў, -еў/-ёў утвараліся, як правіла, ад уласных іменаў людзей. Таму найверагодней, што назва *Магілёў* паходзіць ад слова *Магіла* — уласнага імя чалавека, які сам заснаваў гэты населены пункт або ў гонар якога назвалі паселішча.

У першай чвэрці XVI ст. Магілёў быў горадам, і ў XVI ст. яго ведалі як вялікі гандлёвы і рамесны цэнтр, дзе працавалі самыя лепшыя на Беларусі гарбары і кушняры.

Археолагі лічаць, што першыя сляды чалавека на тэрыторыі Беларусі з'явіліся каля ста тысяч гадоў таму назад. І было гэта ў цяперашнім Быхаўскім раёне на Магілёўшчыне. Такі вывад зроблены на падставе вывучэння знойдзеных тут прылад працы, якімі карысталіся людзі каменнага веку.

Сучасная Магілёўская вобласць знаходзіцца на ўсходзе рэспублікі. Рэльеф у асноўным раўнінны. Клімат умерана кантынентальны; зіма мяккая, цёплая, умерана вільготнае лета. Самыя вялікія рэкі — Дняпро, Сож з Беседдзю, Бярэзіна з прытокамі Свіслач, Друць і Пціч. Найбольшыя лясы ў паўднёвай і заходняй частках.

Землі Магілёўшчыны ў свой час засялялі плямёны такіх культур, як грабеньчата-ямачнай керамікі, сярэднедняпроўская, сосніцкая, мілаградская, зарубінецкая. «У 6—9 ст. тэрыторыю вобласці займалі славянскія плямёны (Новы Быхаў, Тайманава, Жужлянка, Дабужа і інш.). У 2-й палавіне 1-га тысячагоддзя ў басейне Дняпра жылі крывічы, у басейне Бярэзіны дрыгавічы, у Пасожжы радзімічы. З 9 ст. тэрыторыя Магілёўскай вобласці ў складзе Кіеўскай Русі. У 12 ст. частка гэтай тэрыторыі ўвайшла ў Мсціслаўскае княства, частка належала віцебскім князям. Землі паміж Дняпром і сярэднім цячэннем Сажа з Оршай, Копысем, Мсціславам і Прапойскам у 12—13 ст. належалі Смаленскаму княству»*. З 1-й палавіны XIV ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага. У выніку першага (1772 г.) і другога (1793 г.) падзелаў Рэчы Паспалітай далучана да Расіі.

Стары Дняпро-Славуціч на сваіх плячах насіў самаробныя лодкі радзімічаў, крывічоў, дрыгавічоў. Па ім плавалі купцы «з варагаў у

---

* Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: У 12-і т.— Мн., 1972, т. 6, с. 501.

грэкі», спыняючыся і ў Магілёве. Прывозілі тавары з далёкіх земляў, мянялі іх на пушніну і мясцовыя вырабы.

Мірнай працай займаўся просты люд: земляробы, паляўнічыя, плытагоны, руднікі, гутнікі, пчаляры, кавалі, папернікі. Калі надыходзіла небяспека, бралі ў спрацаваныя рукі калы, сякеры, косы, вілы, стрэльбы і іншую зброю, каб адстаяць сябе, абараніць сваю зямлю. Рабіць гэта даводзілася нярэдка, бо нямала розных прыхадняў квапілася на прыдняпроўскі край. Жыхары Магілёўшчыны мужна змагаліся супраць польскай шляхты, шведскіх заваёўнікаў і напалеонаўскіх войск, супраць мясцовых прыгнятальнікаў. Прыхадні адышлі ў нямамяць, а гераізм і адвага патрыётаў жывуць і сёння.

Самы цяжкі час у гісторыі вобласці — 35 месяцаў гітлераўскай акупацыі. Лагеры смерці, гета, турмы, камеры, паліцэйскія ўчасткі. Без следства і суда фашысцкія каты расстрэльвалі і вешалі. Толькі на могільніку Лупалаўскага лагера смерці ў Магілёве пахавана каля 78 000 савецкіх грамадзян *.

Лютавалі гітлераўцы і наступаючы і асабліва ўцякаючы. У Старым Сяле Мсціслаўскага раёна, напрыклад, знішчылі 205 хат, а калгасныя пабудовы расстралялі прамой наводкай з артылерыйскіх гармат. На гэты ж раён прыпадае трагічная лічба: з 15 000 **мсціслаўцаў, якія пайшлі** на фронт, вярнулася дамоў толькі палавіна. У Чэрыкаўскім раёне спалілі 23 995 сялянскіх дамоў, 4 500 грамадскіх будынкаў. Страты, нанесеныя ў Чэрыкаўскім раёне прамысловасці, склалі 40,5 мільёна, камунальнай гаспадарцы — 30,8 мільёна, транспарту — 7,6 мільёна рублёў.

Урон, прычынены акупантамі народнай гаспадарцы Магілёўшчыны, складае болей за 12,5 мільярда рублёў. Амаль цалкам былі разбураны 1 172 прадпрыемствы і 92 электрастанцыі. У гарадах знішчана 218 000 квадратных метраў жылой плошчы. Спалены 67 000 дамоў калгаснікаў, 56 машынна-трактарных станцый, пабудовы і інвентар большасці калгасаў. Пасеўныя плошчы скараціліся на 60%. У два разы зменшылася насельніцтва вобласці. Абязлюдцелі гарады, у іх засталося ўсяго 18,3% даваеннай колькасці насельніцтва.

Вялікія поспехі мае сённяшняя Магілёўшчына. Аднаўляючы пасля Айчыннай вайны зруйнаванае, яна будавалася. Адкрываліся новыя школы, вучылішчы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэатры, Дамы культуры; сталі даваць прадукцыю новыя фабрыкі, заводы. Напружаная, самаадданая праца людзей высока ацэнена: у Магілёўскай вобласці 106 Герояў Савецкага Саюза і 55 Герояў Сацыялістычнай Працы,

* Белорусская ССР. Могилевская область. 2-е изд., доп. и перераб.— Мн., 1976, с. 103.

сама вобласць 8 ліпеня 1967 г. атрымала найвышэйшую ўзнагароду Радзімы — ордэн Леніна.

Многа помнікаў, курганоў славы, мемарыяльных знакаў на магілёўскай зямлі. І сярод іх нямалое месца належыць назвам населеных пунктаў. Іх, назваў, з кожным годам становіцца ўсё меней і меней. У кнізе, надрукаванай у 1976 г., чытаем: «Сельскіх населеных пунктаў у вобласці 3 828. Люднасць іх невялікая, у сярэднім 157 чалавек. На кожныя 100 квадратных кіламетраў прыпадае прыкладна 13 паселішчаў. На паўднёвым захадзе яны большыя, але размешчаны радзей, чым на паўночным усходзе. Знешні воблік іх за гады сацыялістычнага будаўніцтва карэнным чынам змяніўся. Яшчэ да вайны закончана сяленне хутароў. Цяпер ідзе працэс узбуйнення населеных пунктаў і іх добраўпарадкаванне» *.

Рознымі шляхамі знікаюць паселішчы, а ў выніку знікаюць і іхнія назвы — багатая крыніца звестак з нашай гісторыі. Для прыкладу, у 1977 г. вёску Сормава ўключылі ў мяжу горада Чэрыкава. Уласны назоўнік «Сормава» ні ўтваральнай асновай, ні словаўтваральнымі сродкамі не адрозніваецца ад тысяч беларускіх айконімаў гэтага тыпу. Затое сваім значэннем ён адкрывае цікавую старонку пачатку калектывізацыі, менавіта таго перыяду, калі рабочы клас дзейсна дапамагаў сялянству стаць на сацыялістычны шлях вядзення сельскай гаспадаркі.

З ліку дванццаціпяцітысячнікаў у 1930 г. група рабочых прыехала і на Магілёўшчыну. 64 чалавекі з Ніжняноўгарадскага суднабудаўнічага завода «Чырвонае Сормава» праводзіла калектывізацыю, многія з іх сталі старшынямі гаспадарак. Тады ж у гонар сормаўцаў назвалі вёску (недалёка ад Чэрыкава) Сормава і два калгасы ў Крычаўскім раёне — «Чырвонае Сормава» і «Новае Сормава». Спачатку зніклі назвы калгасаў, пасля і назва вёскі. Застаўся пакуль Сормаўскі сельсавет з цэнтрам у горадзе Чэрыкаў. Як бачым, вельмі цікавая сваім значэннем назва, ды пражыла яна меней за пяцьдзесят гадоў...

У Шклоўскім раёне айконімы сустракаем гнёздамі: горад Шклоў, чыгуначная станцыя Шклоў, кар'ер Шклоў II, вёска Вялікі Стары Шклоў, вёска Малы Стары Шклоў. Вывучаючы такія гнёзды, мы не толькі заўважаем, як назвы пераходзілі з аб'екта на аб'ект, але і бачым, у якім кірунку ішло засяленне краю. Як паселішча гістарычныя крыніцы называюць Шклоў у першай палавіне XVI ст. З 1568 г. ён быў цэнтрам Шклоўскага графства. Потым належаў розным магнатам (Хадкевічам, Сяняўскім, Чартарыйскім), уваходзіў у Аршанскі павет Віцебскага ваяводства. У 1668 г. згарэў і стаў будавацца на правым

* Белорусская ССР. Могилевская область, с. 22.

беразе Дняпра, дзе стаіць і цяпер. Ранейшае месца, на рацэ Шклавянка, заняла вёска Стары Шклоў. Затым з'явіліся вёскі Вялікі Стары Шклоў і Малы Стары Шклоў. У пачатку XX ст., калі пабудавалі чыгунку Орша—Магілёў, назву Шклоў перанеслі і на чыгуначную станцыю. Недалёка ад горада сталі здабываць пясок — узнік кар'ер Шклоў II.

Ёсць і іншыя гнёзды назваў у Шклоўскім раёне. Сярод іх такія, як Вялікая Лотва, Лотва, Малая Лотва; Вялікія Сліжы, Сліжы, Малыя Сліжы, Новыя Сліжы; Вялікія Аўчыненкі, Новыя Аўчыненкі, Старыя Аўчыненкі; Вялікі Мяжнік, Малы Мяжнік, Сярэдні Мяжнік. Кожнае гняздо назваў утворана на базе аднаго айконіма.

* * *

Магілёўская сярод абласцей БССР па плошчы знаходзіцца на пятым, перадапошнім, месцы і займае 29 000 кв. км (большая за Гродзенскую на 3 900 кв. км); па колькасці насельніцтва на 1 студзеня 1982 г. яна таксама была на пятым месцы — 1 261 000 чалавек (на 121 000 чалавек больш як у Гродзенскай) *.

У 1964 г. з 30 211 населеных пунктаў Беларусі на долю Магілёўскай вобласці прыпадала 4 081; у 1968 г. з 29 342 у ёй было 4 116; у 1974 г. з 27 442 яна мела 3 836; у 1981 г. з 26 299 стала 3 579 **. На 1 студзеня 1983 г. у вобласці 3 574 паселішчы ***, сярод іх 13 гарадоў (5 абласнога падпарадкавання: Асіповічы, Бабруйск, Горкі, Крычаў, Магілёў; 8 раённага падпарадкавання: Быхаў, Касцюковічы, Клімавічы, Мсціслаў, Слаўгарад, Чавусы, Шклоў), 7 гарадскіх пасёлкаў (Бялынічы, Глуск, Кіраўск, Клічаў, Краснаполле, Круглае, Хоцімск), 4 рабочыя пасёлкі (Глуша, Градзянка, Татарка, Ялізава), 4 былыя мястэчкі, 589 пасёлкаў, 3 000 вёсак, 3 засценкі, 15 хутароў, 46 чыгуначных станцый, 11 раз'ездаў, 10 пасялковых і 206 сельскіх Саветаў. Магілёўская вобласць мяжуе на поўначы з Віцебскай, на захадзе — з Мінскай, на поўдні — з Гомельскай, на паўднёвым усходзе — з Бранскай і на ўсходзе — са Смаленскай абласцямі (дзве апошнія належаць РСФСР).

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» па крыніцах, характары адбору матэрыялу, па структуры, тыпах артыкулаў

---

* Народное хозяйство Белорусской ССР в 1981 году.— Мн., 1982, с. 3, 4.

** Падлікі зроблены паводле даведніка: Белорусская ССР. Административно-территориальное деление.— Мн., 1964; 1968; 1974; 1981.

*** На перспектыўнае развіццё, акрамя гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, плануецца 461 пасяленне.

і іх змесце такі самы, як і слоўнікі па Віцебскай (1977), Брэсцкай (1980), Мінскай (1981) і Гродзенскай абласцях *.

Ставячы мэтаю стварыць слоўнік назваў паселішчаў на тэрыторыі сучаснай Магілёўскай вобласці, аўтар карыстаўся трыма крыніцамі. Першая: запісы на месцы — ад старажылаў вёсак, былых мястэчак, пасёлкаў, хутароў. Другая: перапіска з мясцовымі карэспандэнтамі. Трэцяя: друкаваныя матэрыялы (карты, даведнікі, зборнікі законаў, спісы і інш.). На першым плане, безумоўна, запісы, зробленыя ў 1947—1981 гг. на месцы. Бо сапраўднай афіцыйнай формай айконіма, як і ўсякага іншага тапоніма, неабходна лічыць назву, якой карыстаецца сам народ. Вызначыць такую назву ў значнай ступені дапамагалі пісьмы настаўнікаў, студэнтаў, работнікаў мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

«Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці» беларуска-рускі. Складаецца ён з дзвюх частак.

У першай частцы даюцца назвы ўсіх паселішчаў (гарадоў, гарадскіх і рабочых пасёлкаў, пасёлкаў, былых мястэчак, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў), якія ёсць на сучаснай тэрыторыі вобласці. Сюды ўключаюцца і назвы (на жаль, не ўсе) населеных пунктаў, пры Савецкай уладзе далучаных да гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, сселеных або аб'яднаных з іншымі, а таксама спаленых у Айчынную вайну нямецка-фашысцкімі захопнікамі (пасля вайны не адноўленых).

Кожны айконім пішацца паводле арфаграфічных нормаў, прынятых у сучаснай літаратурнай мове (беларускай і рускай), і мае пазначаны націск — толькі на па-беларуску напісаных назвах і ўтвораных ад іх прыметніках. Пры назве населенага пункта падаецца граматычны род, родны і месны склоны зайконімаў. Пры назоўніках жаночага роду, што маюць аднолькавыя канчаткі ў родным і месным склонах, канчатак паказваецца адзін раз; пры назоўніках, якія ўжываюцца толькі ў множным ліку, ёсць памета мнл., што абазначае **«множналікавы назоўнік»**. Калі ў родным склоне множнага ліку назва населенага пункта ўжываецца з нулявым канчаткам і канчаткам -аў, то прыводзяцца абедзве формы: першая — асноўная, другая — магчымая. Прыводзяцца таксама прыметнікі, беларускі і рускі, утвораныя ад айконімаў.

---

* Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці.— Мн., 1982. Рэцэнзавалі: Андреев А. Пять тысяч названий.— Гродненская правда, 1982, 23 окт., с. 4; Васілевіч А. Родных мясцін імёны.— Уперад, 1982, 29 снеж., с. 4; Жилко Е. В.— Реферативный журнал. Сер. 6. Языкознание.— М., 1982, № 6, с. 192—194; Сарока Уладзімір. Біяграфія роднай зямлі.— Полымя, 1983, № 4, с. 218—219.

Паказваецца тып населенага пункта; пры гарадах, гарадскіх, рабочых пасёлках даюцца дзень, месяц і год, з якіх гэты населены пункт пры Савецкай уладзе стаў горадам, гарадскім ці рабочым пасёлкам, паказваецца падпарадкаванне (абласное, раённае); адзначаецца, цэнтрам чаго з'яўляецца населены пункт (абласнога, раённага, пасялковага, сельскага Савета), у якім сельсавеце і раёне знаходзіцца, у які калгас ці саўгас (пры негарадах) уваходзіць.

**Б'елая Дубро'ва** ж., -лай **-вы**, -лай -ве **Белая Дуброва.** Беладубро'ўскі Белодубровский
в.—ц. Беладуброўскага с/с Касцюковіцкага р-на і с-са «Дуброва».
**Кры'чаў** м., -ава, -аве **Кричев.** Кры'чаўскі Кричевский
летапісы называюць у 1150 г., стаў горадам з 17 снежня 1931 г., г. абласнога падпарадкавання з 7 сакавіка 1963 г., ц. Крычаўскага р-на і к-са «Ударнік».
**Со'тнае** н., -нага, -ным **Сотное.** Со'тненскі Сотненский
х. у Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на, у к-се імя С. М. Будзённага.

Перайменаваныя населеныя пункты маюць год перайменавання і старую назву. Каб лягчэй было іх знайсці, старыя і новыя назвы звязаны двухбаковымі спасылкамі.

**Ліхі'нічы** мнл., іч/-чаў, -чах **Лихиничи.** Ліхі'ніцкі Лихиничский
в. да 1967 г. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на. Гл. **Ра'кушава.**
**Ра'кушава** н., -ва, -ве **Ракушево.** Ра'кушаўскі Ракушевский
(да 1967 г. Ліхі'нічы) в. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на, у с-се «Круглянскі».

Не вызначаецца граматычны род айконімаў і не паказваюцца іх формы ў родным і месным склонах, калі населеныя пункты называюцца (ці называліся) паводле вытворчай прыкметы ці роду заняткаў людзей. Пры такіх назвах няма таксама і прыметнікаў.

**Пасёлак імя' Дзяржы'нскага Посёлок имени Дзержинского**
п. з 1924 г. у Каткаўскім с/с Глускага р-на, у к-се «Зара».
**Пасёлак Пя'чкавіцкага льнозаво'да Посёлок Пячковичского льнозавода**
п. у Доўгавіцкім с/с Мсціслаўскага р-на, Пячкавіцкі льнозавод.

Па-руску беларускія айконімы перадаюцца зыходзячы з традыцыі, заснаванай на блізкай роднасці беларускай і рускай моў, і ў адпаведнасці з асноўнымі нормамі, якіх патрабуе «Инструкция по русской пе-

редаче географических названий Белорусской ССР» (М., 1971). Акрамя таго, улічаны агульны накірунак указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 5 сакавіка 1981 г. «Аб удакладненні напісання некаторых сельсаветаў Беларускай ССР і іх цэнтраў» *. Згодна з указам, пры перадачы тапонімаў Беларусі на рускай мове ім вяртаюцца нацыянальныя асаблівасці: адмаўленне ад перакладу, падваення зычных, змякчэння цвёрдага [р] і іншых зычных, перадача спалучэння *ио* літарай *ё*, вяртанне спрадвечнага граматычнага роду, напісанне суфіксальнага *о* пасля шыпячых пад націскам і г. д.

Як і іншыя геаграфічныя назвы, айконімы ўзнікаюць і скарыстоўваюцца для таго, каб назваць канкрэтны аб'ект, вылучыць яго сярод падобных, надаць адзіны «адрас», таму яны, як правіла, інтэрнацыянальныя і не перакладаюцца з мовы на мову. Гэта істотнае палажэнне, прынятае ў сучаснай навуцы, улічана ў слоўніку.

**Вазраждзе́нне** н., -ння, -нні **Возрождение.** Вазраждзе́нскі Возрожденский

п. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава;

п. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Колас»;

ц. у Лабанаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на, у с-се «Лабанаўка».

**Сагла́сіе** н., -ія, -іі **Согласие.** Сагла́сенскі Согласенский

в. у Галоўчынскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.

**Трудавы́** м., -вога, -вым **Трудовой.** Трудаўскі́ Трудовской

п. да 1980 г. у Чырванабудскім с/с Крычаўскага р-на.

Калі мясцовыя людзі ў састаўных назвах вымаўляюць па-беларуску словы «вялікая», «вялікае», «вялікі», «вялікія» (вёскі Вялікая Машчаніца ў Машчаніцкім сельсавеце Бялыніцкага раёна, Вялікае Заполле ў Ракшынскім сельсавеце Мсціслаўскага раёна, Вялікі Трылесін ў Бялыніцкім пассавеце Бялыніцкага раёна, Вялікія Бортнікі ў Бортніцкім сельсавеце Бабруйскага раёна), а пры напісанні назваў па-руску гэтыя прыметнікі перакладаюць (Большая Мощеница, Большое Заполье, Большой Трилесин, Большие Бортники), то перавага аддаецца беларускай назве і ў кнізе астаюцца Великая Мощеница, Великое Заполье, Великий Трилесин, Великие Бортники.

Выключэнне складае слова «першы»: ці яно з'яўляецца часткаю састаўной назвы, ці ўваходзіць як элемент у складаны айконім — заўсёды паводле традыцыі, замацаванай штодзённай практыкай, перакладаецца.

---

* ЗЗ БССР.— Мн., 1981, № 8, с. 124—128.

**Пе́ршае Ма́я** н., -шага Мая, -шым Маі **Первое Мая.** Першама́йскі Первомайский

в. у Верхнятошчыцкім с/с Быхаўскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава;

(да 1941 г. Філія́л) п. у Дзямідавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на, у к-се «Радзіма».

**Першама́йск** м., -ка, -ку **Первомайск.** Перша́майскі Первомайский (да 1939 г. Гаспо́ды) в. у Першамайскім с/с Горацкага р-на, у с-се «Першамайскі».

**Першама́йская** ж., -кай **Первомайская.** Першама́йскі Первомайский (да 1937 г. Дры́шчаў) в. да 1976 г. у Чырванабудскім с/с Крычаўскага р-на.

Назіраюцца выпадкі, калі мясцовая народная назва не супадае з пісьмовай афіцыйнай, якая ўжо так трывала замацавалася ў розных друкаваных крыніцах, што нават паступова пачала выцясняць мясцовую. У такім разе даюцца абедзве назвы — спачатку пісьмовая, афіцыйная, а потым (у дужках) мясцовая, народная.

**О́рсічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Орсичи.** О́рсіцкі Орсичский (Во́рсічы) в. у Брожскім с/с Бабруйскага р-на, у с-се імя Ленінскага камсамола.

Аднолькавыя назвы змешчаны ў адным артыкуле. Прычым самі назвы не паўтараюцца. Звесткі пра кожны населены пункт, незалежна ад яго тыпу, падаюцца зыходзячы з алфавітнага парадку раёнаў, а для паселішчаў у адным і тым жа раёне — зыходзячы з алфавітнага парадку сельсаветаў.

**Ру́сенка** ж., -кі, -нцы **Русенка.** Ру́сенскі Русенский

в. у Мастоцкім с/с Магілёўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;

в. у Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на, у с-се «Даманы».

**Цялу́ша** ж., -шы **Телуша.** Цялу́шскі Телушский

чыг. ст. у Кавалёўскім с/с Бабруйскага р-на;

в.—ц. Цялушскага с/с Бабруйскага р-на і к-са імя І. У. Мічурына.

Бывае, што ў адным і тым жа сельсавеце ёсць аднолькавыя назвы, якія маюць адрознівальныя паказальнікі І, ІІ і г. д. Тады спачатку даецца назва без паказальніка, а затым — з чарговымі нумарамі. Прычым першай ідзе назва населенага пункта, які ёсць на сённяшні дзень, за ёй — назвы далучаных, сселеных ці аб'яднаных паселішчаў.

**Жураве'ц** м., -аўца, -аўцы **Журавец.** Жураве'цкі Журавецкий
в. у Ясенскім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Жураве'ц І** м., -аўца, -аўцы **Журавец І.** Жураве'цкі І Журавецкий І
в. у Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Вендараж».
**Жураве'ц ІІ** м., -аўца, -аўцы **Журавец ІІ.** Жураве'цкі ІІ Журавецкий ІІ
в. у Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Вендараж».

Назвы населеных пунктаў, сселеных ці аб'яднаных з іншымі, стаяць у агульным алфавітным парадку. Пры іх паказваецца год, да якога было паселішча.

**Куліга'еўка** ж., -кі, -ўцы **Кулигаевка.** Куліга'еўскі Кулигаевский
в. да 1975 г. у Дзямідавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на.
**Туро'ўка** ж., -кі, -ўцы **Туровка.** Туро'ўскі Туровский
в. да 1982 г. у Ходасаўскім с/с Мсціслаўскага р-на.

У састаўных назвах словы стаяць у звычайным, а не інверсійным парадку: Доўгая Карма (Наваельненскі сельсавет Краснапольскага раёна), Цалянская Буда (Лапіцкі сельсавет Асіповіцкага раёна), хоць бытуе і Карма Доўгая, Буда Цалянская. Каб лягчэй было адшукаць патрэбную назву, у такіх выпадках даецца спасылка.

**Бу'да Цаля'нская** гл. **Цаля'нская Бу'да.**
**Карма' До'ўгая** гл. **До'ўгая Карма'.**

Пільнае вока чытача заўважыць, што ў слоўніку даюцца не ўсе назвы паселішчаў, якія ў свой час па нейкіх прычынах зніклі: сселеных, спаленых, далучаных да суседніх і г. д. Есць, напрыклад, вёска Баранцы ІІ (Свіслацкі сельсавет Асіповіцкага раёна) і няма назвы Баранцы І. Калі ў 1960 г. вёску Баранцы ІІ выключылі з уліку, то адпала патрэба ў адрознівальным паказальніку і былую вёску Баранцы І сталі называць проста Баранцы. Асобныя назвы зніклых паселішчаў не ўдалося адшукаць.

Назвы калгасаў і саўгасаў падаюцца ў поўнай адпаведнасці з тымі пісьмовымі афіцыйнымі назвамі, што прыняты на месцах. Праўда, замест ускладненых назваў тыпу ордэна Леніна калгас «XXI з'езд КПСС» (Мсціслаўскі раён), ордэна Леніна калгас імя М. М. Валадарскага *

* Адзін з першых чатырох ардэнаносных калгасаў Беларусі, узнагароджаных у 1940 г.

(Магілёўскі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас «Камінтэрн» (Магілёўскі раён), ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгас імя С. М. Кірава (Шклоўскі раён), племянны саўгас «Гарадзішча» імя 50-годдзя СССР (Шклоўскі раён) пакідаюцца кароткія: калгас «XXI з'езд КПСС», калгас імя М. М. Валадарскага, калгас «Камінтэрн», калгас імя С. М. Кірава, саўгас «Гарадзішча» і замест напісанняў «1 Мая», «1-е Мая», «1-ае Мая», «Першае мая», «Першага мая», «Першага Мая», якія можна знайсці на штампах, пячатках і ў раённых газетах, узята адна форма — «1 Мая». Прынята таксама пад увагу рэкамендацыя Тэрміналагічнай камісіі Беларускай Савецкай Энцыклапедыі пісаць: калгас (саўгас) «Світанне», а не калгас (саўгас) «Рассвет». Адзін толькі ордэна Леніна калгас «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага даецца калгас «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага. Пры ўсіх назвах мемарыяльнага паходжання, утвораных паводле мадэлі «імя+прозвішча чалавека, чыя памяць ушаноўваецца», перад прозвішчам пастаўлены ініцыялы. Гэта поўнасцю адпавядае аналагічным назвам фабрык, заводаў, навучальных і навуковых устаноў і інш.

У другой частцы змешчаны (таксама ў алфавітным парадку) назвы раёнаў, пасялковых і сельскіх Саветаў, калгасаў і саўгасаў. Пры раёнах паказаны: дата ўтварэння; плошча, цэнтр; адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда, да Магілёва і Мінска; колькасць пасялковых і сельскіх Саветаў; агульная колькасць паселішчаў, сярод іх — колькасць гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, былых мястэчак, пасёлкаў, вёсак, засценкаў, хутароў, чыгуначных станцый, раз'ездаў, а таксама колькасць калгасаў і саўгасаў, паселішчаў, запланаваных на перспектыўнае развіццё. Пры пасялковых і сельскіх Саветах — цэнтр; раён, адлегласць ад цэнтра да найбліжэйшай чыгуначнай станцыі ці раз'езда і да раённага цэнтра; колькасць паселішчаў, калгасаў і саўгасаў.

Усяго (з улікам фанетычных і лексічных варыянтаў) у слоўніку 3331 назва, якая прыпадае на 4369 населеных пунктаў. Сярод іх паселішчы (795), спаленыя нямецкімі фашыстамі ў Айчынную вайну і неадноўленыя, далучаныя да гарадоў або гарадскіх пасёлкаў, сселеныя ці аб'яднаныя ў большыя.

Аўтар выказвае шчырую падзяку доктару філалагічных навук П. П. Шубе, доктару геаграфічных навук В. А. Жучкевічу, кандыдатам філалагічных навук С. М. Грабчыкаву і І. Я. Яшкіну, кандыдату гістарычных навук Г. А. Каханоўскаму за каштоўныя парады, Навуковаму савету пры аддзяленні грамадскіх навук АН БССР па праблеме «Беларускае і рускае мовазнаўства», які рэкамендаваў слоўнік да друку, работнікам мясцовых партыйных і савецкіх органаў, настаўнікам, студэнтам за іх звесткі, скарыстаныя пры ўкладанні даведніка.

## СКАРАЧЭННІ

Айч.— Айчынны
Асіп.— Асіповіцкі раён
Бабр.— Бабруйскі раён
Бых.— Быхаўскі раён
Бял.— Бялыніцкі раён
в.— вёска
г.— горад
гл.— глядзі
Глуск.— Глускі раён
Гор.— Горацкі раён
г. п.— гарадскі пасёлак
г/с — гарадскі Савет
д/а — дом адпачынку
ж.— жаночы род
з.— засценак
з-д — завод
Касц.— Касцюковіцкі раён
Кір.— Кіраўскі раён
Клім.— Клімавіцкі раён
Кліч.— Клічаўскі раён
Красн.— Краснапольскі раён
Кругл.— Круглянскі раён
Крыч.— Крычаўскі раён
к-с — калгас
л.— леснічоўка
л-ва — лясніцтва
м.— мужчынскі род
Маг.— Магілёўскі раён
мнл.— множналікавы назоўнік
Мсц.— Мсціслаўскі раён
мяст.— мястэчка
н.— ніякі род
ням.— нямецкі
п.— пасёлак
п/с — пасялковы Савет
р-д — раз'езд
р-н — раён
р. п.— рабочы пасёлак
р/ц — раённы цэнтр
Слаўг.— Слаўгарадскі раён
с/с — сельскі Савет
с-с — саўгас
х.— хутар
Хоц.— Хоцімскі раён
ц.— цэнтр
Чав.— Чавускі раён
чыг. пст.— чыгуначны паўстанак
чыг. ст.— чыгуначная станцыя
Чэрык.— Чэрыкаўскі раён
Шкл.— Шклоўскі раён
эксперымент. — эксперыментальны

# А

**Абі´давічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Обидовичи.** Абі´давіцкі Обидовичский
в.—ц. Абідавіцкага с/с Быхаўскага р-на і к-са «XVIII партз'езд».
**Абраі´маўка** ж., -кі, -ўцы **Абраимовка.** Абраі´маўскі Абраимовский
в. у Дрыбінскім с/с Горацкага р-на, у с-се «Дрыбінскі».
**Абру´бец** м., -бца, -бцы **Обрубец.** Абру´бецкі Обрубецкий
п. да 1976 г. у Верамейкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на.
**Абшчы´на** ж., -ны, -не **Община.** Абшчы´нскі Общинский
п. да 1975 г. у Хоцімскім п/с Хоцімскага р-на.
**Аге´ева** н., -ва, -ве **Агеево.** Аге´еўскі Агеевский
п. у Старынскім с/с Слаўгарадскага р-на, у с-се «Памяць Фрунзе».
**Аге´еўка** ж., -кі, -ўцы **Агеевка.** Аге´еўскі Агеевский
в. у Мастоцкім с/с Магілёўскага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава.
**Агло´бля** ж., -лі **Оглобля.** Аглябля´нскі Оглоблянский
в. да 1964 г. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на. Гл. **Славя´нка.**
**Агу´ла** ж., -лы, -ле **Агула.** Агу´льскі Агульский
в. у Замошскім с/с Асіповіцкага р-на, у с-се «Асіповіцкі».
**Ада´маўка** ж., -кі, -ўцы **Адамовка.** Ада´маўскі Адамовский
в. да 1943 г. у Рудкаўшчынскім с/с Горацкага р-на.
**Ада´менка** ж., -кі, -нцы **Адаменка.** Ада´менскі Адаменский
п. у Навабыхаўскім с/с Быхаўскага р-на, у к-се імя Ф. Э. Дзяржынскага.
**Адве´рніца** ж., -цы **Адверница.** Адве´рніцкі Адверницкий
в. у Ланькаўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя Ф. Энгельса.
**Адэ´ль** ж., -лі **Адель.** Адэ´льскі Адельский
в. да 1964 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на.
**Аза´нчаўка** ж., -кі, -ўцы **Азанчевка.** Аза´нчаўскі Азанчевский
в. да 1981 г. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на.
**Аза´равічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Азаровичи.** Аза´равіцкі Азаровичский
в. у Паршынскім с/с Горацкага р-на, у вучгасе Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.
**Аза´раўка** ж., -кі, -ўцы **Азаровка.** Аза´раўскі Азаровский
п. у Княжыцкім с/с Магілёўскага р-на, у к-се імя М. І. Калініна.
**Аза´рычы** мнл., -ыч/-чаў, -чах **Азаричи.** Аза´рыцкі Азаричский
в. у Лапацічкім с/с Слаўгарадскага р-на, у с-се «Жалезінскі».
**Азе´рцы** мнл., -рац/-цаў, -цах **Озерцы.** Азярэ´цкі Озерецкий
в. у Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на, у к-се «Новае жыццё».
**Азе´р'е** н., -р'я, -р'і **Озерье.** Азе´рскі Озерский
в. у Заходскім с/с Шклоўскага р-на, у к-се імя А. А. Андрэева.
**Азёрная** ж., -най **Озёрная.** Азёрненскі Озёрненский
(да 1964 г. Мужычо´к) в. да 1975 г. у Трасцінскім с/с Хоцімскага р-на.
**Азёры** мнл., -ёр/-раў, -рах **Озёры.** Азёрскі Озёрский
в. у Бортніцкім с/с Бабруйскага р-на, у к-се «Гігант»;

в. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на, у к-се «50 гадоў Кастрычніка».

**Азо'еўка** ж., -кі, -ўцы **Азоевка.** Азо'еўскі Азоевский
в. у Сялецкім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «Сялецкі».

**Азяро'ўка** ж., -кі, -ўцы **Озеровка.** Азяро'ўскі Озеровский
в. у Хоцімскім п/с Хоцімскага р-на, у к-се «Перамога».

**Азяры'шча** н., -ча, -чы **Озерище.** Азяры'шчанскі Озерищенский
в. у Лапіцкім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се «Чырвоны ўдарнік».

**Азярэ'ц** м., -рца, -рцы **Озерец.** Азярэ'цкі Озерецкий
п. у Мокраўскім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «Зарэчны».

**Ако'ліца** ж., -цы **Околица.** Ако'ліцкі Околицкий
в. у Гарохаўскім с/с Бабруйскага р-на, у с-се «Гарохаўскі».

**Ако'ліца Пяча'ры Околица Печары.** Аколіцапяча'рскі Околицапечарский
п. да 1969 г. у Пралетарскім с/с Касцюковіцкага р-на.

**Аксе'нькавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Аксеньковичи.** Аксе'нькавіцкі Аксеньковичский
в. у Запольскім с/с Бялыніцкага р-на, у с-се «Падзевічы».

**Аку'лінцы** мнл., -цаў, -цах **Акулинцы.** Аку'лінскі Акулинский
в. у Сухароўскім с/с Магілёўскага р-на, у к-се «Камуністычны маніфест».

**Акунёўка** ж., -кі, -ўцы **Окунёвка.** Акунёўскі Окунёвский
в. у Гарадзішчанскім с/с Шклоўскага р-на, ц. с-са «Юбілейны».

**Аку'шкі** мнл., -шак/-каў, -ках **Акушки.** Аку'шкаўскі Акушковский
в. у Горскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».

**Акця'бр** м., -ра, -ры **Октябрь.** Акця'брскі Октябрьский
п. у Кавалёўскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се імя А. Неўскага;
п. у Сідараўскім с/с Краснапольскага р-на, у с-се імя М. І. Калініна;
п. у Лабанаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на, у с-се «Лабанаўка»;
в. у Таўкачоўскім с/с Шклоўскага р-на, у к-се «Світанне».

**Акця'брск** м., -ка, -ку **Октябрьск.** Акця'брскі Октябрьский
(да 1964 г. Кабыля'нка) в. у Акцябрскім с/с Клічаўскага р-на, у к-се імя Э. Тэльмана.

**Акця'брскі** м., -кага, -кім **Октябрьский.** Акця'брскі Октябрьский
п. да 1976 г. у Чырванабудскім с/с Крычаўскага р-на.

**Акця'брына** ж., -ны, -не **Октябрина.** Акця'брынскі Октябринский
(да 1964 г. Царко'вішча) в. у Ланькаўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя Ільіча.

**Ала'** ж., Алы, Але **Ала.** Ала'нскі Аланский
в. у Баравіцкім с/с Кіраўскага р-на, у с-се «Бераснёўскі».

**Ала'дзенка** ж., -кі, -нцы **Аладенка.** Ала'дзенскі Аладенский
в. да 1977 г. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на.

**Александро'ва** н., -ва, -ве **Александрово.** Александро'ўскі Александровский
в. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на, у к-се «Свабода»;
в. у Ваўкавіцкім с/с Чавускага р-на, у к-се «Іскра».

**Александро'ў** м., -ова, -ове **Александров.** Александро'ўскі Александровский
в. у Чырвонаслабодскім с/с Быхаўскага р-на, у к-се «Радзіма»;
в. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Бялевічы»;
п. да 1969 г. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на.

**Александры'я** ж., -ыі **Александрия.** Александры'йскі Александрийский

в. у Александрыйскім с/с Шклоўскага р-на, ц. к-са «Дняпроўскі».
**Але′нь** м., -ня, -ні **Олень.** Але′нскі Оленский
в. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Колас».
**Але′сенкава** н., -ва, -ве **Алесенково.** Але′сенкаўскі Алесенковский
п. у Сялецкім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «Сялецкі».
**Але′шкавічы I** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алешковичи I.** Але′шкавіцкі I Алешковичский I
в. у Эсьмонскім с/с Бялыніцкага р-на, ц. к-са імя С. М. Кірава.
**Але′шкавічы II** мнл., -іч/-чаў, -чах **Алешковичи II.** Але′шкавіцкі II Алешковичский II
в. у Эсьмонскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.
**Альхаве′ц** м., -аўца, -аўцы **Ольховец.** Альхаве′цкі Ольховецкий
в. у Горскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Альхо′ўка** ж., -кі, -ўцы **Ольховка.** Альхо′ўскі Ольховский
в. у Маслакоўскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Шлях Леніна»;
в. у Патоцкім с/с Клічаўскага р-на, у к-се «Клічаўскі»;
п. да 1980 г. у Комсеніцкім с/с Круглянскага р-на;
в. да 1961 г. у Кручанскім с/с Круглянскага р-на;
в. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Бялевічы»;
в. у Пуцькаўскім с/с Чавускага р-на, у с-се «Асінаўскі».
**Альша′нікі I** мнл., -каў, -ках **Ольшаники I.** Альша′ніцкі I Ольшаникский I
в. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на, у к-се імя Г. М. Дзімітрава.
**Альша′нікі II** мнл., -каў, -ках **Ольшаники II.** Альша′ніцкі II Ольшаникский II
в. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на, ц. к-са імя Г. М. Дзімітрава.
**Альшо′ў I** м., -ова, -ове **Ольшов I.** Альшо′ўскі I Ольшовский I
в. у Велікаліпаўскім с/с Хоцімскага р-на, у к-се «Маяк».
**Альшо′ў II** м., -ова, -ове **Ольшов II.** Альшо′ўскі II Ольшовский II
в. у Хоцімскім п/с Хоцімскага р-на, у к-се «Перамога».
**Алю′ты** мнл., -ют/-таў, -тах **Алюты.** Алю′цкі Алютский
в. у Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на, у с-се «Прагрэс».
**Алякса′ндравічы** мнл., -іч/-чаў, чах **Александровичи.** Алякса′ндравіцкі Александровичский
(да 1964 г. Цярпі′лаўка) в. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на, у к-се «Авангард».
**Алякса′ндраўка** ж., -кі, -ўцы **Александровка.** Алякса′ндраўскі Александровский
в. у Ясенскім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. да 1967 г. у Восаўскім с/с Бабруйскага р-на;
п. да 1975 г. у Дзямідавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на;
в. у Савініцкім с/с Клімавіцкага р-на, у с-се «Савінічы»;
в. у Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на, у с-се «Ганчанскі»;
в. у Жаліўскім с/с Чавускага р-на, у к-се «Звязда»;
в. у Рыжкавіцкім с/с Шклоўскага р-на, у к-се імя К. Маркса;
в. у Чэрнеўскім с/с Шклоўскага р-на, у с-се «Даманы».
**Алякса′ндраўка I** ж., -кі, -ўцы **Александровка I.** Алякса′ндраўскі I Александровский I
(да 1960 г. Чарце′ж) в. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на, у с-се «Палужскі»;

в. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на, у к-се «40 гадоў Кастрычніка».

**Алякса'ндраўка II** ж., -кі, -ўцы **Александровка II.** Алякса'ндраўскі II Александровский II
в. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на, у с-се «Палужскі»;
в. у Гіжэнскім с/с Слаўгарадскага р-на, у к-се «40 гадоў Кастрычніка».

**Алякса'ндраўскі** м., -кага, -кім **Александровский.** Алякса'ндраўскі Александровский
п. да 1977 г. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на.

**Аляксе'еўка** ж., -кі, -ўцы **Алексеевка.** Аляксе'еўскі Алексеевский
(да 1964 г. Ша'йдараўка) в. у Сялецкім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «Сялецкі»;
в. у Патоцкім с/с Клічаўскага р-на, у с-се «Клічаўскі».

**Аме'льня** ж., -ні **Омельня.** Амяле'нскі Омеленский
(Во'мелле) чыг. ст. у Варатынскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна;
р-д да 1970 г. у Кавалёўскім с/с Бабруйскага р-на.

**Аме'рыка** ж., -кі, -ыцы **Америка.** Амерыка'нскі Американский
в. да 1961 г. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на. Гл. **Со'кал.**

**Амі'навічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Аминовичи.** Амі'навіцкі Аминовичский
в. у Пагарэльскім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се «Камунар».

**Аму'р** м., -ра, -ры **Амур.** Аму'рскі Амурский
(да 1964 г. Шумя'цічы) в. у Слаўкавіцкім с/с Глускага р-на, у к-се імя В. І. Чапаева.

**Амхава'я I** ж., -вой **Амховая I.** Амхаўскі' I Амховской I
в. у Нядашаўскім с/с Магілёўскага р-на, ц. с-са «Магілёўскі».

**Амхава'я II** ж., -вой **Амховая II.** Амхаўскі' II Амховский II
в. у Нядашаўскім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Магілёўскі».

**Амша'ра** ж., -ры **Амшара.** Амша'рскі Амшарский
п. да 1976 г. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на.

**Амяле'нская Слабада'** ж., -кай -ды, -кай -адзе **Омеленская Слобода.** Амяленскаслабо'дскі Омеленскослободской
в. у Варатынскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се «Прагрэс».

**Амялі'шча** н., -ча, -чы **Омелище.** Амялі'шчанскі Омелищенский
в. у Лапіцкім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се «Бальшавік».

**Ана'неўка** ж., -кі, -ўцы **Ананевка.** Ана'неўскі Ананевский
п. у Запольскім с/с Бялыніцкага р-на, у с-се «Падзевічы».

**Ана'нічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ананичи.** Ана'ніцкі Ананичский
в. у Лабковіцкім с/с Крычаўскага р-на, у к-се імя XXII з'езда КПСС.

**Анато'леўка** ж., -кі, -ўцы **Анатолевка.** Анато'леўскі Анатолевский
в. да 1981 г. у Патоцкім с/с Клічаўскага р-на.

**Андзе'калава** н., -ва, -ве **Андеколово.** Андзе'калаўскі Андеколовский
в. у Ленінскім с/с Горацкага р-на, у с-се «Камуніст».

**Андраны'** мнл., -ноў, -нах **Андроны.** Андрано'ўскі Андроновский
в. у Доўгавіцкім с/с Мсціслаўскага р-на, у к-се «Ударнік».

**Андро'наўка** ж., -кі, -ўцы **Андроновка.** Андро'наўскі Андроновский
в. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на, у к-се імя XXI з'езда КПСС.

**Андрухі'** мнл., -хоў, -хах **Андрухи.** Андрухо'ўскі Андруховский
в. у Макараўскім с/с Горацкага р-на, у вучгасе Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

**Андрэ'еўка** ж., -кі, -ўцы **Андреевка.** Андрэ'еўскі Андреевский
в. да 1964 г. у Клетненскім с/с Глускага р-на. Гл. **Новаандрэ'еўка.**
**Андрэ'еўскі** м., -кага, -кім **Андреевский.** Андрэ'еўскі Андреевский
п. да 1976 г. у Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на.
**Ані'кавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Аниковичи.** Ані'кавіцкі Аниковичский
в. у Маслакоўскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Шлях Леніна».
**Ані'ськаўшчына** ж., -ны, -не **Аниськовщина.** Ані'ськаўшчынскі Аниськовщинский
в. у Вішоўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се «Радзіма».
**Антапо'ль** м., -ля, -лі **Антополь.** Антапо'льскі Антопольский
п. у Ямненскім с/с Быхаўскага р-на, у с-се «Ямнае».
**Анто'нава Бу'да** ж., -вай -ды, -вай Будзе **Антонова Буда.** Антанавабу'дскі Антоновобудский
в. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя В. П. Чкалава.
**Анто'наўка** ж., -кі, -ўцы **Антоновка.** Анто'наўскі Антоновский
в. у Сычкаўскім с/с Бабруйскага р-на, у с-се «Бярэзіна»;
х. да 1971 г. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на;
в. у Пралетарскім с/с Касцюковіцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на, у с-се «Краснапольскі»;
в. у Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на, спаленая ням. фашыстамі ў Айч. вайну, не адноўленая;
в. да 1971 г. у Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на;
в. да 1976 г. у Падсолтаўскім с/с Мсціслаўскага р-на;
в.—ц. Антонаўскага с/с Чавускага р-на і к-са «1 Мая»;
в. у Гарбавіцкім с/с Чавускага р-на, у с-се «Раста».
**Ану'фрыева** н., -ва, -ве **Ануфриево.** Ану'фрыеўскі Ануфриевский
в. да 1976 г. у Сялецкім с/с Мсціслаўскага р-на.
**Анэ'ліна** н., -на, -не **Анелино.** Анэ'лінскі Анелинский
п. у Баханскім с/с Слаўгарадскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава.
**Аню'ціна** н., -на, -не **Анютино.** Аню'цінскі Анютинский
в. у Сормаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на, у к-се «Іскра».
**Апало'наўка** ж., -кі, -ўцы **Аполоновка.** Апало'наўскі Аполоновский
в. у Рыжкавіцкім с/с Шклоўскага р-на, у к-се «Праўда».
**Арава'** ж., -вы, -ве **Арава.** Араўскі' Аравской
в. у Круглянскім п/с Круглянскага р-на, у к-се «Свабода».
**Арло'ўка** ж., -кі, -ўцы **Орловка.** Арло'ўскі Орловский
п. у Комсеніцкім с/с Круглянскага р-на, у к-се «Шлях Леніна»;
в. у Забялышынскім с/с Хоцімскага р-на, у с-се «Забялышын».
**Арло'ўшчына** ж., -ны, -не **Орловщина.** Арло'ўшчынскі Орловщинский
в. у Палёнкаўскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».
**Арлы'** мнл., -лоў, -лах **Орлы.** Арло'ўскі Орловский
в. у Ракцянскім с/с Горацкага р-на, у с-се «Горацкі».
**Арля'нка** ж., -кі, -нцы **Орлянка.** Арля'нскі Орлянский
п. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Колас».
**Аро'л** м., Арла, Арле **Орёл.** Арло'ўскі Орловский
в. у Батаеўскім с/с Хоцімскага р-на, у к-се «Прагрэс».
**Арцёмаўка** ж., -кі, -ўцы **Артёмовка.** Арцёмаўскі Артёмовский
в. у Галіцкім с/с Клімавіцкага р-на, у к-се «Шлях да камунізму».
**Арцёхаў** м., -ава, -аве **Артёхов.** Арцёхаўскі Артёховский
в. у Горскім с/с Краснапольскага р-на, у к-се імя Ф. Энгельса.

**Арцюхі'** мнл., -хоў, -хах **Артюхи.** Арцюхо'ўскі Артюховский
в. у Бялынкавіцкім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «40 гадоў Кастрычніка».
**Арцюхо'ўка** ж., -кі, -ўцы **Артюховка.** Арцюхо'ўскі Артюховский
в. у Чарняўскім с/с Хоцімскага р-на, у к-се імя XXI з'езда КПСС.
**Арша'ні** мнл., -ань/-няў, -нях **Оршани.** Арша'нскі Оршанский
в. у Горскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Савецкая Беларусь».
**Ары'жня** ж., -ні **Арыжня.** Арыжня'нскі Арыжнянский
в. у Завалочыцкім с/с Глускага р-на, у с-се «Завалочыцы».
**Арэ'хава** н., -ва, -ве **Орехово.** Арэ'хаўскі Ореховский
(да 1964 г. Пішча'кі) в. у Слабодкаўскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се імя XXII з'езда КПСС.
**Арэ'хаўка** ж., -кі, -ўцы **Ореховка.** Арэ'хаўскі Ореховский
(да 1967 г. в. Но'вая Арэ'хаўка і в. Стара'я Арэ'хаўка) в. у Нясяцкім с/с Клічаўскага р-на, ц. с-са «Добраахвотнік»;
в. у Ляснянскім с/с Круглянскага р-на, у к-се «Кастрычнік».
**Арэ'хаўскі** м., -кага, -кім **Ореховский.** Арэ'хаўскі Ореховский
п. у Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на, у к-се «Камунар».
**Асаве'ц** м., -аўца, -аўцы **Осовец.** Асаве'цкі Осовецкий
в. у Цяхінскім с/с Бялыніцкага р-на, у с-се «Друць»;
в. у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на, ц. к-са «Перамога»;
чыг. ст. у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на, у к-се «Перамога»;
п. у Вепрынскім с/с Чэрыкаўскага р-на, у с-се «Сцяг».
**Асаво'к** м., -аўка, -аўку **Осовок.** Асаво'цкі Осовокский
в. у Каменіцкім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се «Новы шлях».
**Асавы'** мнл., -воў, -вах **Осовы.** Асаўскі' Осовской
в. у Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на, у к-се імя С. М. Будзённага.
**Асаўні'к** м., -ка, -ку **Осовник.** Асаўні'цкі Осовникский
в. у Дабаснянскім с/с Кіраўскага р-на, у к-се «Камуніст».
**Асі'навы** м., -вага, -вым **Осиновый.** Асі'наўскі Осиновский
п. у Высакаборацкім с/с Краснапольскага р-на, у с-се «Краснапольскі».
**Асі'наўка** ж., -кі, -ўцы **Осиновка.** Асі'наўскі Осиновский
в. у Дрыбінскім с/с Горацкага р-на, у с-се «Дрыбінскі»;
п. у Дзямідавіцкім с/с Кастюковіцкага р-на, у к-се «Дружба»;
в. у Нясяцкім с/с Клічаўскага р-на, у с-се «Добраахвотнік»;
в. у Наваельнянскім с/с Краснапольскага р-на, у к-се імя А. А. Жданава;
п. да 1974 г. у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на;
в. у Раздзельскім с/с Мсціслаўскага р-на, у к-се імя У. І. Леніна;
в. у Пуцькаўскім с/с Чавускага р-на, ц. с-са «Асінаўскі».
**Асі'ннік** м., -ка, -ку **Осинник.** Асі'нніцкі Осинникский
п. у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на, у к-се імя А. В. Суворава.
**Асіпо'вічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Осиповичи.** Асіпо'віцкі Осиповичский
сталі горадам з 15 ліпеня 1935 г., г. абласнога падпарадкавання з 7 сакавіка 1963 г. і чыг. ст. з 1872 г., ц. Асіповіцкага р-на;
в. у Паленкаўскім с/с Горацкага р-на, у к-се «Запаветы Ільіча».
**Асіпо'вічы I** мнл., -іч/-чаў, -чах **Осиповичи I.** Асіпо'віцкі I Осиповичский I
в. да 1946 г. у Вязскім с/с Асіповіцкага р-на. Гл. **Перамо'га.**
**Асіпо'вічы II** мнл., -іч/-чаў, -чах **Осиповичи II.** Асіпо'віцкі II Осиповичский II

чыг. ст. у Замошскім с/с Асіповіцкага р-на, у с-се «Асіповіцкі».
**Асіпо'вічы III** мнл., -іч/-чаў, -чах **Осиповичи III.** Асіпо'віцкі III Осиповичский III
чыг. ст. у Замошскім с/с Асіповіцкага р-на, у с-се «Асіповіцкі».
**Асля'нка** ж., -кі, -нцы **Ослянка.** Асля'нскі Ослянский
в. у Пячкоўскім с/с Мсціслаўскага р-на, ц. к-са «Савецкая Расія».
**Асман-Каса'ева** н., Асман-Касаева, Асман-Касаеве **Осман-Касаево.** Асман-Каса'еўскі Осман-Касаевский
(да 1964 г. Сярмя'жанка) в. у Цяхцінскім с/с Бялыніцкага р-на, у с-се «Друць».
**Асмо'лавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Осмоловичи.** Асмо'лавіцкі Осмоловичский
в. у Капачоўскім с/с Мсціслаўскага р-на, у с-се «Пісараўшчына»;
в. у Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на, ц. с-са «Асмолавічы»;
чыг. ст. у Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на, у с-се «Асмолавічы».
**Асмо'лаўка** ж., -кі, -ўцы **Осмоловка.** Асмо'лаўскі Осмоловский
в. у Цяхцінскім с/с Бялыніцкага р-на, у с-се «Друць».
**Аснаўны'** м., -нога, -ным **Основной.** Асно'ўненскі Основненский
п. у Лебядзянкаўскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се імя К. С. Заслонава.
**Асо'ўшчына** ж., -ны, -не **Осовщина.** Асо'ўшчынскі Осовщинский
в. у Лудчыцкім с/с Быхаўскага р-на, у к-се «Рэвалюцыя».
**Астало'пава** н., -ва, -ве **Остолопово.** Астало'паўскі Остолоповский
в. да 1969 г. у Ленінскім с/с Горацкага р-на. Гл. **Све'тлая.**
**Аста'паўка** ж., -кі, -ўцы **Остаповка.** Аста'паўскі Остаповский
в. у Клічаўскім п/с Клічаўскага р-на, у к-се «Уперад да камунізму».
**Астраве'ц** м., -аўца, -аўцы **Островец.** Астраве'цкі Островецкий
в. у Заходскім с/с Шклоўскага р-на, у к-се імя А. А. Андрэева.
**Астраво'к** м., -аўка, -аўку **Островок.** Астраво'цкі Островокский
п. у Беладуброўскім с/с Касцюковіцкага р-на, у с-се «Дуброва».
**Астравы'** мнл., -воў, -вах **Островы.** Астраўскі' Островской
в. у Гарохаўскім с/с Бабруйскага р-на, у с-се «Гарохаўскі»;
в. у Ваўкавіцкім с/с Чавускага р-на, у к-се «Іскра»;
в. ва Ушакоўскім с/с Чэрыкаўскага р-на, у к-се «Чырвоны араты».
**Астраўшчы'на** ж., -ны, -не **Островщина.** Астраўшчы'нскі Островщинский
в. у Семукацкім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Колас».
**Астро'ўкі** мнл., -овак/-каў, -ках **Островки.** Астро'ўскі Островский
в. у Дрычынскім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се «Шлях Ільіча».
**Астро'ўцы** мнл., -цаў, -цах **Островцы.** Астро'ўскі Островский
в. да 1977 г. у Ходасаўскім с/с Мсціслаўскага р-на.
**Астрэ'йкавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Астрейковичи.** Астрэ'йкавіцкі Астрейковичский
в. да 1976 г. у Чырванагорацкім с/с Мсціслаўскага р-на.
**Астрэ'ні** мнл., -энь/-няў, -нях **Астрени.** Астрэ'неўскі Астреневский
в. у Вайнілаўскім с/с Чавускага р-на, у племзаводзе «XVIII партз'езд».
**Асяро'дак** м., -дка, -дку **Осерёдок.** Асяро'дацкі Осерёдокский
в. у Ясенскім с/с Асіповіцкага р-на, у к-се імя У. І. Леніна.
**Асяці'шча** н., -ча, -чы **Осетище.** Асяці'шчанскі Осетищенский
в. у Шапялевіцкім с/с Круглянскага р-на, у с-се «Шапялевічы».

**Атня'нка** ж., -кі, -нцы **Атнянка.** Атня'нскі Атнянский
в. у Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на, у с-се «Вендараж».
**Атра'днае** н., -нага, -ным **Отрадное.** Атра'дненскі Отрадненский
п. у Галоўчынскім с/с Бялыніцкага р-на, у к-се «Камінтэрн».
**Атра'дны** м., -нага, -ным **Отрадный.** Атра'дненскі Отрадненский
п. да 1969 г. у Дабаснянскім с/с Кіраўскага р-на. Гл. **Пражэ'ктар.**
**Атра'жжа** н., -жжа, -жжы **Атражье.** Атра'жскі Атражский
в. у Благавіцкім с/с Чавускага р-на, у к-се «Святло Кастрычніка».
**Атро'шкавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Атрошковичи.** Атро'шкавіцкі Атрошковичский
в. у Гарбацэвіцкім с/с Бабруйскага р-на, у с-се «Бабруйскі».
**Аўгусто'ў** м., -ова, -ове **Августов.** Аўгусто'ўскі Августовский
в. у Гарадзецкім с/с Шклоўскага р-на, у с-се «Гарадзец».
**Аўра'маўка** ж., -кі, -ўцы **Аврамовка.** Аўра'маўскі Аврамовский
п. у Каменналаўскім с/с Шклоўскага р-на, у к-се «Зара».
**Аўсі'мавічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Авсимовичи.** Аўсі'мавіцкі Авсимовичский
в. у Варатынскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се імя А. С. Пушкіна.
**Аўся'нка** ж., -кі, -нцы **Овсянка.** Аўся'нскі Овсянский
в.—ц. Любіжскага с/с Горацкага р-на і к-са «XVII партз'езд».
**Аўтухо'ўка** ж., -кі, -ўцы **Автуховка.** Аўтухо'ўскі Автуховский
в. у Высоцкім с/с Клімавіцкага р-на, у с-се «Высоцкі».
**Аўхі'мкаўская Зара'** ж., -кай -ры **Авхимковская Заря.** Аўхімкаўсказо'рскі Авхимковскозорский
п. у Благавіцкім с/с Чавускага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».
**Аўхі'мкі** мнл., -мак/-каў, -ках **Авхимки.** Аўхі'мкаўскі Авхимковский
в. у Благавіцкім с/с Чавускага р-на, у к-се «Ленінскі шлях».
**Аўча'рка** ж., -кі, -рцы **Овчарка.** Аўча'рскі Овчарский
п. да 1977 г. у Таўкачоўскім с/с Шклоўскага р-на.
**Аўчы'нец** м., -нца, -нцы **Овчинец.** Аўчы'нецкі Овчинецкий
в. у Сабалёўскім с/с Краснапольскага р-на, у с-се «Завадоцкі».
**Ахі'мкавічы I** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ахимковичи I.** Ахі'мкавіцкі I Ахимковичский I
в. у Комсеніцкім с/с Круглянскага р-на, у к-се «Іскра».
**Ахі'мкавічы II** мнл., -іч/-чаў, -чах **Ахимковичи II.** Ахі'мкавіцкі II Ахимковичский II
в. у Комсеніцкім с/с Круглянскага р-на, у к-се «Іскра».
**Ахо'цічы** мнл., -іч/-чаў, -чах **Охотичи.** Ахо'ціцкі Охотичский
в. у Баравіцкім с/с Кіраўскага р-на, у с-се «Берасьнёўскі».

## Б

**Ба'біна I** н., -на, -не **Бабино I.** Ба'бінскі I Бабинский I
в. у Хімоўскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се «Шлях Леніна».
**Ба'біна II** н., -на, -не **Бабино II.** Ба'бінскі II Бабинский II
в. у Хімоўскім с/с Бабруйскага р-на, у к-се «Шлях Леніна».
**Ба'бінкі** мнл., -нак/-каў, -ках **Бабинки.** Ба'бінскі Бабинский
в. у Раснянскім с/с Горацкага р-на, у к-се імя С. М. Кірава.

